# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 22 лістапада 1994 года | № 125 (10825) | Цана 50 руб.

ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## Не патрэбна маёмасць?

Такое пытанне міжволі ўзнікае, калі знаёмішся з ходам прыватызацыі аб"ектаў дзяржаўнай уласнасці ў Салігорску. На сярэдзіну кастрычніка пасведчанні аб наліччэнні імянных прыватызацыйных чэкаў атрымалі каля пяці тысяч гараджан. А права набыць сертыфікаты чэкаў маюць звыш 71 тысячы чалавек.

Прычына нізкай актыўнасці салігорцаў заключаецца ў тым, што большасць з іх пакуль не бачаць рэальнай выгады ад чэкаў, за атрыманне якіх трэба заплаціць 15 працэнтаў ад мінімальнай зарплаты. Акцыянерных таварыстваў, куды непасрэдна можна ўкласці чэкі, у горадзе няма. У Ашчадным банку ёсць праспекты эмісіі двух дзесяткаў такіх таварыстваў, якія знаходзяцца ў іншых гарадах, але далёка не ўсе патэнцыяльныя ўладальнікі дзяржаўнай маёмасці аб гэтым ведаюць. З інвестыцыйных фондаў сваё прадстаўніцтва ў Салігорску мае толькі адзін...

— Гараджанам не трэба баяцца, што іх чэкі могуць прапасці, — гаворыць старшыня гарадской камісіі па чэках «Маёмасць» М.М.Купрыяновіч. — Калі хтосьці не ўкладзе іх у вытворчасць, то зможа прадаць на біржы. Нарэшце, прададзены магазіны, рэстараны і іншыя аб"екты гарадской камунальнай уласнасці, а іх новыя ўладальнікі абавязаны палавіну кошту выплаціць чэкамі «Маёмасць». Гэта — вялікія сумы. Дзе іх узяць? Значыць, будуць купляць у насельніцтва...

— А вы свае чэкі куды ўклалі? — спытаў я.

— Яшчэ думаю, — адказаў старшыня.

Не ўсё пакуль што ясна ў гэтай справе...

*/Наш кар./.*

## Прэстыж Ганновера

Гановер — горад невялікі, жывуць тут 400 тысяч чалавек, але сусветна вядомы. Гэта — горад выставак і кірмашоў, які штогод наведваюць звыш 2,3 мільёна зацікаўленых людзей з усіх кантынентаў. На прэс-канферэнцыі для мінскіх журналістаў, якую правялі Міхаэль Баерман — шэф маркетынгу, генеральны ўпаўнаважаны «Дойчэ Месе АГ», Моніка Брант — прэс-служба, Ірына Вайсхаар — прадстаўнік па СНД, Людміла Гурыновіч — Мінскае бюро прадстаўніцтва «Дойчэ Месе АГ», адбылася прэзентацыя гановерскіх кірмашоў.

Цікава, што нарэшце ў Гановеры была прадстаўлена і Беларусь. Фірма «Белтэхналогія», завод пячатных плат, Беларуская політэхнічная акадэмія і іншыя мелі пэўны поспех. Трэба спадзявацца, што ўдзел у гановерскіх кірмашах дапаможа нашым спецыялістам пераадолець закамплексаванасць «адстаючых». Першыя ж «ластаўкі» прынеслі добрую навіну: навукова-тэхнічны патэнцыял у нас не горшы, чым у Еўропе. Ёсць упэўненасць, што ў бліжэйшы час свае дасягненні на сусветным кірмашы будуць дэманстраваць 20—30 фірм з нашай рэспублікі.

Штогод у свеце праходзіць 2 тысячы выставак і кірмашоў. З іх 1.400 — у Еўропе. Аднак найбольшую ўвагу спецыялістаў і наведвальнікаў прыцягваюць каля 150 экспазіцый, сто з якіх дэманструюцца ў Германіі.

Выставачнаму ж комплексу ў Гановеры няма роўных у свеце. Нездарма тут кожны год праходзіць 50—60 самых прэстыжных выставак. Быць прадстаўленымі на іх — гонар і прызнанне маркі фірмы і краіны.

## ПЕРВЫЕ ПО БЕЗРАБОТИЦЕ

Уровень безработицы в столичной области составляет 2,3 процента. Как сообщили в областном центре занятости, это самый высокий показатель среди областей республики.

Сегодня на Минщине нуждаются в работе 18,8 тысячи человек, более 10 тысяч из них получают пособия. Больше всего нетрудоустроенных в Пуховичском районе. В следующем году там планируется ввести 350 рабочих мест. Много безработных ждут своей участи в Молодечно, Солигорске и Любанском районе, где уровень безработицы превышает два процента.

*Анатолий ВОРОНИНСКИЙ.*

## У ГАРАДЗЕІ — КАЎБАСА

Аб"яднанне прадпрыемстваў грамадскага харчавання Нясвіжскага райспажыўсаюза адкрыла ў Гарадзеі каўбасны цэх. Устаноўлена неабходнае абсталяванне, і ўжо выпушчана першая партыя сардэлек. Іх развезлі па школьных сталовых раёна. Гэта выгадная справа для харчавікоў, бо не трэба ездзіць па каўбасы ў камбінат кааператыўнай прамысловасці і плаціць "накруткі".

Па-ранейшаму выдатна працуе кандытарскі цэх аб"яднання, вырабы якога карыстаюцца вялікім попытам. У канцы верасня і пачатку кастрычніка гарадзейскія майстры вазілі сваю прадукцыю ў Мінск на кірмаш, і там яна мела вялікі поспех. А харчавікі прывезлі грамату. На нядаўнім кірмашы ў Нясвіжы за тарты і піражныя гарадзейцы выручылі два мільёны рублёў. І гэта за чатыры гадзіны!

Работнікі сталовых аб"яднання летам і восенню самі нарыхтоўвалі прадукты на зіму: сушылі фрукты, варылі павідла, салілі агуркі, назапасілі іншай агародніны. З прадукцыяй уласнай вытворчасці харчавікам будзе лягчэй зімаваць.

*Раіса ХВІР. г.Нясвіж.*

■ В партиях и движениях

## Пикетирование Национального банка

Три дня Славянский собор "Белая Русь" совместно с ЛДП проводили пикетирование Национального банка Беларуси с протестом против повышения цен, а также с требованием отставки С.Богданкевича как главного виновника краха финансовой системы республики и высокой инфляции.

Причиной пикетов является ухудшающееся экономическое положение населения. За первое полугодие в Беларуси умерло почти на 11 тысяч человек больше, чем родилось. Из-за неверия в завтрашний день за восемь месяцев нынешнего года по собственной воле свели счеты с жизнью 2.231 человек. Наибольшее число самоубийств — в Минской и Витебской областях. Только в прошлом году около 200 тысяч женщин республики прервали беременность, и Беларусь достигла "лидерства" в мире по этому показателю. На 28% меньше, чем за такой же период прошлого года, сдано в республике жилых домов, не говоря уже о цене, которую надо платить за приобретение квартиры.

Все это и вынуждает нас прибегать к пикетам как одной из форм протеста против надвигающейся катастрофы. Славянский собор "Белая Русь" требует отставки председателя Национального банка как главного виновника краха финансовой системы республики и высокой инфляции. Все страны мира, в том числе и США, борются за новые рынки сбыта, в том числе и за рынок России, а Беларусь благодаря безграмотным действиям С.Богданкевича может его потерять. И это при том, что 83,3% в удельном весе товарооборота республики занимает Россия.

Западный рынок нас не принимает. Идет жесткая конкурентная борьба. Бизнес есть бизнес, и поэтому не надо надеяться на помощь МВФ или Банка реконструкции и развития. У них — свои интересы, а у нашей республики — свои, и часто эти интересы объективно не совпадают. Славянский собор "Белая Русь" считает, что национальные интересы Беларуси — в тесной интеграции с Россией.

*В. МОИСЕЕНКО, руководитель пресс-службы Славянского собора "Белая Русь".*

## "Очищение" против коррупции

В Минске прошла учредительная республиканская конференция Белорусского народного союза по поддержке борьбы с коррупцией и преступностью в республике "Очищение". На конференции присутствовали председатели областных и городских организаций "Очищение".

Конференция одобрила доклад о целях и задачах этой организации, обсудила и утвердила устав БНС "Очищение" для передачи в Министерство юстиции Республики Беларусь, избрала высший руководящий орган и членов ревизионной комиссии.

До избрания председателя БНС "Очищение" руководство республиканской организацией поручено Гайдукевичу Сергею Васильевичу.

*(Наш корр.).*

■ Свята сям"і

## САМАРОБНЫ КОТ, ТОРТ І ЗЛАМАНАЯ ЛЫЖКА

***Прыемна глядзець на знаёмыя і незнаёмыя мілыя, усмешлівыя твары. Заўважаю Марыну Ахатаўну Сагайдараву з Жодзіна — маму-выхавальніцу дзіцячага дома сямейнага тыпу. З яе дзесяцярымі дзецьмі. Як яны выраслі! Сёлета самыя малодшыя з "сагайдарат" пайшлі ў першы клас.***



**НА ЗДЫМКУ:** сярод запрошаных на свята — сям"я **Алешка** з вёскі Камарова Мядзельскага раёна: Соф"я Канстанцінаўна, Чэслаў Іосіфавіч і іх дзеці.

Усяго на абласное свята мнагадзетных сем"яў у Мінскі палац дзяцей і моладзі прыехалі прадстаўнікі двух дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, 26 сем"яў з розных куткоў Міншчыны. 55 бацькоў, 158 дзяцей.

Атмасфера ў палацы — радасная, прыўзнятая. Гарыць ілюмінацыя, працуе арыгінальны фантан. На століках — цукеркі, піражныя, апельсіны. Свята пачынаецца ўрачыстым парадам удзельнікаў. Слова бярэ старшыня абласнога Савета дэпутатаў А.І.Цішкевіч.

— Цяжка сёння ўсім,— адзначае ён.— Асабліва — мнагадзетным сем"ям. Мы будзем рабіць усё магчымае, каб не зніжаўся ўзровень жыцця людзей.

Альфонс Ільіч прапаноўвае першы сімвалічны тост:"За здаровую, моцную, добрую сям"ю!".

На адным са столікаў — вялікі «паветраны» торт. Дзіўны ўзор кандытарскай «архітэктуры». Тут сядзіць сям"я Каменка са Стаўбцоўскага раёна.

— Торт мы пяклі пад кіраўніцтвам нашай бабулі,— тлумачыць мне Марыя Адамаўна. Яе муж, Міхаіл Анатольевіч, — настаўнік. Да таго ж — дэпутат сельскага Савета. Пры яго актыўным удзеле пракладзены для вяскоўцаў водаправод, асфальт, зроблена асвятленне вуліцы. Ды і гэта яшчэ не ўсё : Міхаіл Анатольевіч — майстар ад Бога. І зямлю ўмее апрацаваць, і тэлевізар сам збярэ. 28 гадоў звязваюць вузы Гіменея гэтых людзей, шасцярых дзяцей яны выгадавалі.

1994 год — унікальны для сям"і Каменка. Пяцідзесяцігоддзе адсвяткаваў Міхаіл Анатольевіч. 45 гадоў — Марыя Адамаўна, 25 — іх сын Сяргей. Другі ж сын, Ігар, ухітрыўся нядаўна ажаніцца.

Арганізатары свята падрыхтавалі для сям"і са Стаўбцоўскага раёна прыемны сюрпрыз. У залу ўваходзіць іх сын-салдат Міхаіл. Яго адпусцілі з арміі на некалькі дзён. Плача маці, радуюцца сямігадовыя сястрычкі- блізняты Іна і Ілона.

А хто гэта там — у ажурных саламяных капелюшах і какошніках?

— Я толькі асвойваю сакрэты пляцення, — прызнаецца Валерый Паўлавіч Сальнік, бацька мнагадзетнай сям"і з Маладзечанскага раёна. Дарэчы, саламяныя кветкі, якія ўпрыгожваюць сцэну, таксама зроблены гэтай сям"ёю. І дарослыя , і юныя тут — самыя сапраўдныя таленты. Усе, акрамя чатырохгадовага Дзяніса, валодаюць некалькімі музычнымі інструментамі. Тата — баянам, акардэонам, фартэпіяна, гармонікам. Мама, Ірына Мяфодзьеўна, іграе на фартэпіяна, ударных інструментах, сын Сяргей — на цымбалах, фартэпіяна, ударных ...

І вось сямейны музычны ансамбль, вядомы не толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў Польшчы, — на сцэне. Гучыць музыка. І трэба ж такому здарыцца: у самага маленькага артыста, Дзяніса, зламалася адна з лыжак, на якіх ён іграе. І якія ж горкія слёзы льюцца з яго вачэй! Іх удаецца суняць толькі другой мнагадзетнай сям"і — Ірыны і Станіслава Рымашэўскіх з Любанскага раёна. Яны дораць малышу вялізнага самаробнага ката.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## Прэзідэнцкая каманда дзейнічае

На працягу некалькіх дзён у Смалявіцкім раёне і горадзе Жодзіна працавалі звыш дваццаці членаў камісіі Адміністрацыі Прэзідэнта па вывучэнню работы мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання са зваротамі грамадзян. Узначаліў групу правяраючых намеснік старшыні камісіі, галоўны спецыяліст упраўлення па справах тэрыторый адміністрацыі Прэзідэнта Мікалай Мікалаевіч Папека. Правяралася работа як выканкомаў гарадскіх і раённага Саветаў, так і кіраўніцтва прадпрыемстваў і арганізацый, устаноў.

У першыя два дні работы прадстаўнікі адміністрацыі вялі прыём грамадзян па асабістых пытаннях. Як паведаміла старшыня Жодзінскага гарвыканкома Лідзія Мікалаеўна Печань, за два дні да членаў камісіі звярнуліся 254 жыхары горада. Пераважную большасць гараджан хвалююць сацыяльна-бытавыя праблемы.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

*Газета для вас і пра вас*

Працягваецца падпіска на першае паўгоддзе 1995 года. Кошт яе на *"Мінскую праўду"* – 7.200 рублёў.

Калі вы аформіце абанемент на нашу газету, то будзеце мець аператыўную і цікавую інфармацыю аб падзеях у рэспубліцы, сталічнай вобласці.

**"Мінская праўда" — газета для вас і пра вас!**

## "ПРАМАЯ ЛІНІЯ" са старшынёй аблвыканкома

Заўтра, 23 лістапада, рэдакцыя газеты "Мінская праўда" арганізуе "прамую лінію" са старшынёй выканкома Мінскага абласнога Савета дэпутатаў **А.І.Цішкевічам.**

Званіце Альфонсу Ільічу з **10** да **13** гадзін **23 лістапада** па тэлефонах **32-50-01** або **68-25-57**, і вы атрымаеце адказы на пытанні, якія вас цікавяць.

Можна таксама загадзя перадаць ці пераслаць поштай свае пытанні на адрас рэдакцыі.



■ Служба ДАІ

## Не спяшайцеся на той свет

Размова пойдзе не аб самазабойцах, якія не вытрымліваюць жорсткіх рэалій нашага жыцця, а аб людзях, якія з-за сваёй бестурботнасці гінуць пад коламі аўтамабіляў. Мой субяседнік — начальнік ДАІ УУС аблвыканкома Віктар Міхайлавіч **ЛЫСЯНОК.**

**— Віктар Міхайлавіч, віншую з павышэннем па службовай лесвіцы.**

— Дзякуй.

**— Хаця, напэўна, адбылося тое, што і павінна здарыцца: адзін прафесіянал змяніў другога. А.Чуднікаў узначаліў службу ДАІ рэспублікі, а вы з намеснікаў сталі начальнікам. Але ж праблемы нікуды не дзеліся і наўрад ці знікнуць. Усё той жа ўзрыўны характар працы, сутыкненне з экстрэмальнымі сітуацыямі, пастаянная напружанасць.**

— Я чалавек справы. Не люблю пустога баўлення часу. Самі бачыце, рабочы дзень начальніка ДАІ распісаны па хвілінах. І так кожны дзень.

**— Што хвалюе больш за ўсё?**

— Усплёск дарожна-транспартных здарэнняў. У кастрычніку было адносная зацішша, а ў лістападзе крывая ДТЗ папаўзла ўверх. Гэта можна абумовіць некалькімі фактарамі: скараціўся светлавы дзень, ліхтары на вуліцы практычна не гараць, да таго ж грамадскі транспарт стаў рэдкасцю. Такія абставіны вымусілі многіх людзей хадзіць пешшу або сесці на павозкі, веласіпеды. Дарожныя правілы ігнаруюцца, людзі перамяшчаюцца па вуліцах як ім уздумаецца. Для вадзіцеляў цяпер дарога — існае пекла...

**— Калі яшчэ ўлічыць, што імчаць яны па ёй на поўнай скорасці...**

— Гэта ўжо іншая размова. А калі вярнуцца да нашай тэмы, то нават пенсіянеры — і тыя праяўляюць бестурботнасць і выбягаюць на дарогу перад блізка ідучым транспартам. Вельмі хвалюе дзіцячы траўматызм. Вынік сумны: з 40 дарожна-транспартных здарэнняў гэта амаль усе аўтанаезды на людзей, прычым 18 — са смяротным вынікам.

**— Гартаеш зводку, Віктар Міхайлавіч, — становіцца страшна. На дарогах людзі гінуць як на вайне. Вось, напрыклад, на дарозе Мінск—Віцебск паблізу спарткомплексу «Раўбічы» невядомай машынай зроблены наезд на мужчыну. Пацярпеўшы загінуў. Трагедыя ў Пухавіцкім раёне. Машына тарпедуе інваліда, які заканчвае жыццё пад коламі. У Жодзіне вадзіцель наязджае на пешахода. Зноў — труп. Вадзіцель аўтобуса ў Капыльскім раёне перапыніў жыццё мужчыну. У Жодзіне веласіпедыстка стала яшчэ адной ахвярай транспарту. Страшны спіс, якому, здаецца, не будзе канца.**

— Усё залежыць ад кожнага з нас. Неабходна пранікнуцца разуменнем, што бяспечнасць залежыць ад асабістых паводзін. Здаецца, азбучная ісціна: у цёмны час патрэбна ісці па левым баку насустрач транспарту. А веласіпедыстам і павозкам наогул устрымлівацца ад паездак у цемры. Ну а вадзіцелям неабходна быць вельмі пільнымі, строга захоўваць правілы руху.

*Ірына АНДРЭЕВА.*

### Надвор"е

***Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае надвор"е, месцамі кароткачасовыя ападкі, уначы галалёд. Тэмпература паветра — 1 — 6, у Мінску — 2 — 4 градусы цяпла.***

## НОВЫЙ ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ПРАВЛЕНИЯ БЕЛКООПСОЮЗА

18 ноября состоялось собрание совета Белкоопсоюза, на котором было рассмотрено заявление председателя правления республиканской организации потребительской кооперации Григория Грищенкова о его отставке.

Свое решение Григорий Захарович мотивировал тем, что не может далее исполнять свои обязанности в обстановке огульной критики, которая раздается в последнее время в адрес потребительской кооперации и лично его как руководителя. Отставка была принята членами совета.

В работе собрания принял участие первый заместитель премьер-министра Михаил Мясникович, который внес на рассмотрение членов совета предложенную президентом и премьер-министром на пост председателя правления Белкоопсоюза кандидатуру Виктора Владыко, работавшего до этого заместителем председателя правления. В результате голосования Виктор Владыко единогласно был избран председателем правления Белкоопсоюза.

■ У люстэрку статыстыкі

## ДЗЕСЯЦЬ КРОКАЎ УНІЗ

За дзесяць месяцаў сёлетняга года калгасы, саўгасы і дзяржгасы вобласці атрымалі і рэалізавалі на забой 170,3 тысячы тон жывёлы і птушкі — 92 працэнты да аналагічнага перыяду мінулага года. Вытворчасць мяса ў разліку на сто гектараў сельгасугоддзяў склала 111,2 цэнтнера супраць 121,1 летась. Знізілі вытворчасць мяса 18 раёнаў і 322 гаспадаркі — 61 працэнт ад іх агульнай колькасці.

За гэты час надоена 760,3 тысячы тон малака. Гэта 103 працэнты да ўзроўню мінулага года. Яго вытворчасць у разліку на сто гектараў сельгасугоддзяў узнялася да 493 цэнтнераў супраць 476,2 цэнтнера летась. Сярэдні надой ад каровы склаў 2.781 кілаграм — на 117 кілаграмаў больш, чым у студзені-кастрычніку мінулага года.

Курыных яек атрымана 514,6 мільёна штук — 92 працэнты да ўзроўню мінулага года пры сярэдняй прадукцыйнасці нясушкі 190 яек. Летась за студзень-кастрычнік было атрымана 202 яйкі ад нясушкі.

На пачатак лістапада ў калгасах, саўгасах і дзяржгасах налічвалася 1 мільён 6 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы, у тым ліку 342,5 тысячы кароў, што складае адпаведна 92 і 97 працэнтаў да мінулагодняга. Гаспадаркі мелі 606 тысяч галоў свіней, або 99,8 працэнта да мінулагодняга ўзроўню.

Усе катэгорыі гаспадарак вобласці прадалі дзяржаве 158,6 тысячы тон жывёлы і птушкі, а таксама 675 тысяч тон малака. Да ўзроўню мінулага года гэта адпаведна 87 і 95 працэнтаў. Паменшылі продаж жывёлы і птушкі ўсе раёны вобласці акрамя Крупскага, дзе рэалізацыя жывёлы склала 109 працэнтаў. Продаж малака зменшылі 19 раёнаў.

З асабістых падсобных гаспадарак насельніцтва паступіла 5,7 тысячы тон жывёлы і птушкі (73 працэнты да ўзроўню мінулага года) і 45,4 тысячы тон малака, што складае 44 працэнты да мінулагодняга.

Фермерскія гаспадаркі прадалі дзяржаве 40 тон жывёлы і 57 тон малака.

*Валянціна КАЛІЦЬКО.*

## *А.И.Тишкевич:*

# РЕАЛЬНО ВИДЕТЬ ПРОБЛЕМЫ

**Как мы уже сообщали, в облисполкоме прошло совещание руководителей областных служб и подразделений. На нем выступил председатель облисполкома А.И.ТИШКЕВИЧ. Публикуем его выступление с некоторыми сокращениями.**

Мы с вами должны реально оценивать сложившуюся, а еще больше — предстоящую, не только экономическую, но и социальную ситуацию, связанную с последствиями кризисных явлений в экономике. Реалии же таковы, что они не могут не понудить, заставить задуматься каждого над вопросом: что же происходит? Власть разрабатывает антикризисную программу, намечает пути выхода из сложившейся ситуации, ужесточает требования по реализации мер. В то же время в прессе и среди отдельной категории населения нередко раздаются голоса совершенно о другом, подвергая действия властей сомнению, нагнетая и до того накаленную обстановку. Этими своими действиями они не только не содействуют смягчению обстановки, а наоборот, ее дестабилизируют, создают нервозность, неуверенность, пассивность и другие морально-психологические негативные явления.

Население охвачено социальной апатией. Безусловно, и это должен каждый здраво понимать, положение дел в экономике чрезвычайно сложное. Ситуация не просто кризисная, а по существу назревает глобальная экономическая катастрофа. Прежде всего это связано с разрушением Союза, сложившихся десятилетиями торгово-экономических, производственно-технических и иных связей. Эти кровеносные сосуды, обеспечивающие жизнедеятельность практически всех предприятий, порваны. Ценой больших издержек приходится восстанавливать и налаживать эти связи.

Многие не вполне четко представляют себе, какой колоссальный урон наносит это производству и в целом обществу.

Примеров тому немало. Национальный доход в республике снижается. По итогам за 9 месяцев его уровень составил к соответствующему периоду прошлого года около 75%. А это, естественно, отражается и еще более скажется на социальном положении населения, в том числе и нашей области. Легкая промышленность из-за отсутствия хлопкового сырья парализована. Только по нашей области объемы производства за 10 месяцев упали на 48%, не производятся многие виды изделий детского ассортимента.

Стареют основные фонды. Оборудование на ряде предприятий физически и морально устарело, износ доходит до 50-70 и выше процентов, обновление не происходит, заброшено внедрение научно-технического прогресса. Эти процессы надо видеть и принимать неотложные меры.

В связи с таким положением в экономике возникает множество социальных проблем. Материально и морально беднеет население. Материальная необеспеченность многих людей преклонного возраста, недостаточность витаминозно-калорийного питания для детей — источник многих болезней, о которых уже было давно забыто. Растет число умерших от кишечных инфекций, от болезней эндокринной системы, расстройства пищеварения, нарушения обмена веществ и иммунитета, цирроза печени и некоторых других видов заболеваний. Смертность детей в возрасте до 1 года увеличилась в текущем году почти на 20 процентов, Ежедневно в области умирает 63 человека.

Материальные недостатки, бытовая неустроенность отрицательно сказываются на семейно-бытовых отношениях. Снижается количество браков, увеличивается число разводов, сокращается рождаемость. Назревает демографический кризис. Об этом ярко свидетельствуют некоторые данные по нашей области. Число зарегистрированных браков снизилось почти на 13 процентов, а разводов увеличилось на 2,3%. Снижение рождаемости наблюдается в 28, или около 67%, городских поселениях. В сельской местности смертность превысила рождаемость почти в 2 раза. Уже в течение нескольких лет нет естественного прироста населения. Если за 9 месяцев 1993 года прирост населения сократился на 2.898 человек, то за этот же период текущего года сокращение составило 4.017 человек, а по сельскому населению — 5.623 человека.

Низкий уровень экономического развития создает базу для негативного морально-психологического состояния людей, усложняет криминогенную обстановку. Требования сейчас таковы, что не должен быть без внимания и соответствующего реагирования ни один факт правонарушения. На этом не весьма благоприятном фоне наша область еще как-то, если можно так сказать, держится на плаву в плане состояния экономики в промышленности и сельском хозяйстве. Но это далеко не то состояние, которое может и должно быть даже при чрезвычайно сложном положении и влиянии внешних факторов.

В промышленности в целом по области прослеживается с начала года тенденция прироста производства. За 10 месяцев его уровень составил 91,2% против 80,2 на начало года. Для сравнения скажу, что в целом по республике этот показатель равен 76%. По товарам народного потребления на начало года снижение объемов в январе было 25,5%, за 10 месяцев падение сократилось и стало 15,2% (в республике — почти 18%). Несколько лучше положение с продовольственными товарами. Здесь к соответствующему периоду прошлого года уровень производства достиг почти 92% против 76,5% в январе.

Вместе с тем некоторые позитивные перемены не должны нас успокаивать. При всем том, что сделано и продолжает осуществляться производственными объединениями, областными организациями по наращиванию выпуска продукции и товаров, этого явно недостаточно. Они могут и должны сделать значительно больше. К примеру, в лесохозяйственном объединении Березинский, Воложинский, Клецкий, Копыльский, Молодечненский, Старобинский, Червенский и другие лесхозы не только не снизили объемы производства продукции и товаров, но и увеличили темпы роста от 3 до 20%. В то же время Смолевичский, Узденский, Вилейский, Борисовский, Логойский, Минский, Слуцкий, Стародорожский, Столбцовский сократили выпуск продукции на 12—15%, а в Крупском лесхозе уровень производства товаров народного потребления составляет только около 24% к соответствующему периоду прошлого года.

Во многом недорабатывают ряд предприятий концерна "Промышленник". Исполком уже принял решение об освобождении от занимаемой должности директора Столбцовского деревообрабатывающего комбината Афанасенко, как не обеспечившего порученный участок работы. В системе концерна есть еще предприятия, где допущено значительное снижение объемов производства. В их числе Слуцкая текстильная фабрика, где уровень производства за 10 месяцев составляет 46,3%, Узденская швейная фабрика — около 40%, Крупский деревообрабатывающий комбинат — 26% и ряд других. Да и в целом по предприятиям концерна снижение составляет более одной трети от уровня прошлого года. А ведь в своих прогнозах на 1994 год концерн предусматривал рост объема промышленной продукции на 3,2%, а товаров народного потребления — на 3%.

Предприятиями кооперативной промышленности за 10 месяцев т.г. снижены темпы роста производства потребительских товаров в натуральном выражении по всем видам выпускаемой продукции. А ведь потребительская кооперация обеспечивает более 56% розничного товарооборота области, в том числе за счет собственного производства — 55%, 29% плодоовощных консервов, 30% колбасных изделий, 53% безалкогольных напитков. Хлебом и хлебобулочными изделиями обеспечивает население 12 районов. В этих условиях снижение любого из показателей производства товаров недопустимо. Тем более что при проверках торгующих организаций на местах имеются факты, когда в магазинах потребительской кооперации отсутствует даже продукция собственного производства, не говоря уже о том, что в связи с отсутствием оборотных средств практически не освоены рыночные фонды за 9 месяцев т.г. по мясопродуктам (47,4%), по области — 69,9%, колбасным изделиям (57,4%), по области — 95,2%, мясу (44,0%), по области — 61,9% и т.д.

Немало нареканий у населения на службу быта. И они правы. Объем как платных, так и бытовых услуг из года в год сокращается. Управляемость по всей системе сервисного обслуживания населения потеряна, структура управления собственностью службы быта несовершенна.

Облсельхозпрод в последнее время не оказывает решающего влияния на положение дел в колхозах и совхозах. Снижается поголовье скота и его продуктивность, уменьшаются посевные площади под основными товарными культурами. На зимнестойловый период 1994—1995 гг. дефицит кормов составил 23% по кормовым единицам и 24% по переваримому протеину. На 1 ноября в колхозах и совхозах области имелось 79% кормов в кормовых единицах к уровню 1993 года. Для сравнения: по Могилевской области — 88%, Витебской — 81%.

Ветеринарная и зоотехническая службы облсельхозпрода не несут никакой ответственности за состояние племенной работы и воспроизводства стада. В 1993 г. на 100 коров и нетелей получено 77 телят, за 10 месяцев 1994 г. — 62 теленка.

Вызывает тревогу положение дел в строительстве. Год уже на исходе, а многие объекты под угрозой срыва сдачи их заказчику. А ведь нужно за оставшееся время сдать в эксплуатацию 550 тыс. кв. метров общей площади жилья.

Еще худшее положение со строительством медицинских учреждений, которых необходимо предъявить к сдаче аж 94% от предусмотренных в плане, дошкольных учреждений — 93%, учреждений культуры — 87%. Отсюда и низкое качество, и недоделки, и масса других негативных явлений.

Предвижу со стороны некоторых оправдание, мотивирование недостатком финансовых средств, несвоевременной индексацией и удорожанием строительства. Все это так и не совсем так. На упрощенный подход к решению сложных вопросов не надо было рассчитывать в конце прошлого и начале текущего года, когда формировалась программа, а надо было в течение года настойчиво искать и предлагать пути выхода. Вместе с тем факты свидетельствуют о распылении средств на многочисленных объектах. В результате растет число долгостроев в области.

Кроме того, отвлекаются бюджетные средства на строительство таких объектов, которые не вызваны первоочередной необходимостью. Примером тому может служить начатое строительство за счет бюджетных средств так называемого выставочного сельскохозяйственного центра АПК "Маркет", который появился в программе в сентябре текущего года за счет средств, предназначенных для индексации удорожания начатых ранее объектов.

Обстановка с топливно-энергетическими ресурсами сложная. Обеспеченность топливом по состоянию на 1 ноября 1994 г. учреждений образования составляла в среднем 50%. Несколько лучше обеспечены учреждения здравоохранения, культуры и соцзащиты, но все равно под полную потребность топлива здесь недостает. Бюджетные средства для пополнения запасов топлива весьма ограничены, поэтому отделу топлива (Тупик А.А.) в качестве выхода из этой тяжелой ситуации надо для своих закупок активнее идти на использование банковских кредитов.

С другой стороны, напряженность в топливном обеспечении области в немалой степени создается из-за несвоевременной платы за уже потребленные энергоресурсы. Общий долг потребителей за электроэнергию — 12 млрд. белорусских рублей и за теплоэнергию — 3 млрд. рублей, а за природный газ — 11 млрд. российских рублей. В то же время объединение "Минскэнерго" и предприятие "Минскоблгаз" недостаточно решительно воздействуют на неплательщиков.

В связи с чрезвычайно сложным положением по обеспечению потребителей топливом и электроэнергией в наступивший уже зимний период Кабинет Министров принял постановление "О дополнительных мерах по экономии топливно-энергетических ресурсов". Предписано разработать и реализовать конкретные мероприятия по снижению в IV квартале нынешнего года и в I квартале 1995 года расходов котельно-печного топлива и тепловой энергии не менее чем на 20 процентов, электрической энергии — не менее чем на 10 процентов по сравнению с IV кварталом 1993 года.

Обстановка по всем направлениям чрезвычайно сложная. Но это вовсе не означает, что надо ждать каких-то особых команд, напоминаний сверху, а еще хуже — занять выжидательную позицию, решать свои проблемы, не думая о последствиях.

Принята программа неотложных мер по выходу экономики республики из кризиса. Не надо рассуждать о некоторых ее недостатках, о несовершенных отдельных законодательных актах. Просто надо видеть ситуацию, проблемы, реально их оценивать и, исходя из принятой программы, подкрепляя ее конкретными мерами по своему хозяйству, действовать решительно, настойчиво добиваясь в каждом случае реальной отдачи, эффективности.

*Ці будзем гэтай зімой з кармамі для жывёлы?.. Такое пытанне не паўстае перад трактарыстам калгаса "Гарадзейскі" Нясвіжскага раёна Леанідам* ***Бераснёвым*** *(на здымку). У гэтым годзе ён разам з таварышамі па працы падрыхтаваў для грамадскага статка гаспадаркі ўдосталь сіласу, сенажу, іншых кармоў.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ АПК і рынак

# Генафонд калгасных ферм —

## *гэта багацце, якое ні ў якім разе нельга страціць*

Яшчэ не так даўно дойны статак калгаса імя Чкалава Барысаўскага раёна быў інфіцыраваны вірусам лейкозу. Акрамя гэтага, амаль у кожнай трэцяй каровы выяўляліся гінекалагічныя захворванні. Таму кіраўніцтва і зоаветспецыялісты сур'ёзна задумаліся над тым, як найхутчэй аздаравіць жывёлу. Калектыўна вызначылі шляхі выхаду са складанага становішча. Першнаперш вырашылі выбракаваць усіх лейкозных кароў і замяніць іх высокаўдойнымі першацёлкамі ўласнай гадоўлі. Але ж зрабіць гэта немагчыма без належнай арганізацыі племянной работы. Таму менавіта на ёй і засяродзілі ўвагу.

Бядотнае фінансавае становішча змусіла многія гаспадаркі дзеля эканоміі сродкаў скараціць заатэхнікаў-селекцыянераў. Чкалаўцы знаходзяцца не ў лепшым становішчы, аднак не пайшлі на такі крок і пакінулі Валянціну Мажэйка на ранейшай пасадзе. Больш таго, нягледзячы на пастаянны дэфіцыт бензіну знайшлі магчымасць выдзеліць тэхніку-асемянатару Таццяне Ясяновіч аўтамашыну УАЗ-469, бо дойны статак і цялушкі знаходзяцца ў трох брыгадах. Наладзілі сістэматычны ўлік племянной работы, на фермах абсталявалі тыпавыя пункты асемянення, змайстравалі прафілакторыі для ўтрымання нованароджаных цялят, і гэта прынесла добры плён. Так, за мінулыя тры кварталы ў калгасе атрыманы самы высокі ў раёне выхад цялят на сто кароў — 85 галоў, у той час як у сярэднім па раёне атрымана толькі 63 цяляці. Захаванасць маладняку таксама высокая.

Штогод у гаспадарцы злучаецца да 40 працэнтаў цялушак, што дае магчымасць прыкладна на столькі ж працэнтаў, а то і больш, замяняць выбракаваных кароў і нават павялічваць іх пагалоўе. Так, толькі сёлета дойны статак гаспадаркі вырас на 100 галоў, а ў недалёкай перспектыве павялічыцца яшчэ на столькі ж. Рэзервы для гэтага ёсць: на сто "месц" ёсць 120 цялушак. Таму хапае высокапрадуктыўнага маладняку не толькі для калгаса, а і для мясцовага насельніцтва. Нават суседнім гаспадаркам прадае калгас.

Аздараўленню жывёлы садзейнічае і паляпшэнне яе кармлення. На гэта чкалаўцы таксама звярнулі належную ўвагу. Пасля правядзення рэканструкцыі аднаго з кароўнікаў на цэнтральнай ферме там сталі прымяняць мабільную раздачу кармоў. У выніку з'явілася магчымасць даваць жывёле фураж у выглядзе кармасумесей, прыгатаваных у кармацэху, — з дабаўкамі, макра- і мікраэлементамі. Гэта павялічвае аддачу корму, спрыяе павышэнню прадуктыўнасці жывёлы. Так, за мінулыя дзевяць месяцаў надой на карову па гаспадарцы павялічыўся ў параўнанні з мінулагоднім на 638 кілаграмаў і набліжаецца да трохтысячнай адзнакі, а захворванні кароў зведзены да мінімуму.

Ёсць нямала станоўчага і нават павучальнага ў рабоце жывёлаводаў калгаса імя Чкалава. Аб гэтым гаварылі ўдзельнікі абласнога семінара, які праходзіў на базе гэтай гаспадаркі. На ім дырэктары райплемстанцый, а таксама доследных дзяржплемпрадпрыемстваў вобласці абмяркоўвалі стан і перспектывы арганізацыі племянной работы і ўзнаўлення дойнага статка.

З вынікамі работы ў гэтым кірунку за тры кварталы года азнаёміў прысутных намеснік начальніка Мінскага аблплемжывёлааб'яднання Аляксандр Міхайлавіч Барышчук. У абмеркаванні ўзнятых праблем прынялі ўдзел дырэктар Барысаўскай райплемстанцыі Віктар Вітальевіч Аскерка, кіраўнікі Жодзінскага і Нясвіжскага дзяржплемпрадпрыемстваў Мікалай Уладзіміравіч Пілюк і Анатоль Мікалаевіч Коршун.

Падкрэслівалася, што адной з важнейшых задач для работнікаў і спецыялістаў гаспадарак, райплемстанцый і дзяржплемпрадпрыемстваў з'яўляецца захаванне генетычнага патэнцыялу жывёлы хаця б на дасягнутым узроўні. Пакуль гэта ўдаецца. Па вобласці асемяненне кароў семем ацэненых па якасці патомства быкоў складае 95,5 працэнта, што вышэй за сярэднерэспубліканскі паказчык. Але гэта не павінна стаць падставай для самазаспакоенасці. Прыняты Вярхоўным Саветам Закон аб племянной справе нацэльвае на далейшую актывізацыю гэтай работы непасрэдна на месцах.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

■ У Кабінеце Міністраў рэспублікі

## Распарадзіцца па-гаспадарску

Пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міністэрству эканомікі дадзена права ажыццяўляць у 1994 годзе рэгуляванне цэн на нафту, якая атрымліваецца з Расіі па ўзаемазвязаных пастаўках на эквівалентнай аснове і рэалізуецца на ўнутраным рынку, з улікам забеспячэння балансу паміж выручкай ад продажу нафты і затратамі на закупку прадукцыі ў пастаўшчыкоў рэспублікі і афіцыйнага курсу грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь адносна іншых валют.

Прызнана мэтазгодным, гаворыцца ў пастанове, ажыццяўляць перагляд цаны на нафту ў выпадку змянення афіцыйнага курсу грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь на 15 і больш працэнтаў.

## Усе флагі ў госці...

Кабінет Міністраў прыняў рашэнне па ўнесенай шэрагам міністэрстваў, сталічным гарвыканкомам і Асацыяцыяй камерцыйных банкаў прапанове аб правядзенні ў Мінску з 6 да 9 чэрвеня 1995 года міжнароднай выстаўкі і кангрэса "Праблемы развіцця камп'ютэрнай апрацоўкі даных банкаўскіх сістэм і сродкаў сувязі".

Ужо створаны і працуе аргкамітэт. МЗС, Мінтрансу, Дзяржмытні рэкамендавана аказваць садзейнічанне ў падрыхтоўцы і правядзенні гэтых важных для рэспублікі мерапрыемстваў.

## Маюць патрэбу ў ахове

Па ўнесенай МЗС і ўзгодненай з Мінабароны і Мінфінам прапанове ўрадам рэспублікі прынята распараджэнне аб заключэнні пагаднення паміж Беларуссю і Польшчай аб ахове памяці і пахаванні ахвяр войнаў і рэпрэсій.

Весці перагаворы па падрыхтоўцы пагаднення ўпаўнаважана дэлегацыя з аўтарытэтных людзей.

## Аб'ядноўваючы навуковы патэнцыял

Пастановай урада створана Камісія Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь па пытаннях навукова-тэхнічнага прагрэсу. Зацверджаны яе персанальны састаў. Старшынёй камісіі назначаны намеснік прэм'ер-міністра Віктар Ганчар. Міністэрству адукацыі і навукі сумесна з Акадэміяй навук, а таксама зацікаўленымі міністэрствамі і іншымі органамі кіравання даручана ў месячны тэрмін распрацаваць і ўнесці на зацвярджэнне ўрада праект палажэння аб Камісіі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь па пытаннях навукова-тэхнічнага прагрэсу.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Ці будзе ў Беларусі двайное грамадзянства?

Камісія Вярхоўнага Савета па нацыянальнай палітыцы і пытаннях СНД мае намер у студзені прадставіць на разгляд парламента пытанне аб унясенні змяненняў у Закон "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь". Як паведаміў карэспандэнту Белінфарма старшыня камісіі Міхаіл Слямнёў, яны ў прыватнасці датычаць спрашчэння выхаду з грамадзянства, магчымасці ўвядзення двайнога грамадзянства. Паводле яго слоў, з увядзеннем у Беларусі інстытута прэзідэнцтва пытаннямі грамадзянства будуць займацца і прэзідэнцкія структуры. Таму ёсць неабходнасць унясення змяненняў у функцыі Вярхоўнага Савета і яго Прэзідыума. Камісія мае напрацоўкі, якія даюць магчымасць ліквідаваць артыкул 20 часткі 1 Закона "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь", згодна з якім грамадзянства Рэспублікі Беларусь страчваецца ў выніку набыцця асобай грамадзянства іншай дзяржавы.

Як адзначыў М.Слямнёў, магчымы, напрыклад, варыянт прыняцця дадатковых заканадаўчых актаў, якія даюць прэзідэнту ў некаторых выпадках права вырашаць пытанне аб двайным грамадзянстве. Пытанне аб двайным грамадзянстве можна вырашыць праз заключэнне міжнародных дагавораў на двухбаковай аснове. У даным выпадку гэта пытанне парламентаў дзвюх дзяржаў. Паводле слоў М.Слямнёва, распрацаваны праект такога дагавора паміж Расіяй і Беларуссю.

На даны момант у пасольстве Расіі ў Беларусі зарэгістраваны дзве тысячы расійскіх грамадзян, з якіх каля тысячы засталіся жыць у Беларусі. Многіх з іх цікавіць пытанне двайнога грамадзянства. Аб гэтай праблеме ў свой час гаварыў у гутарцы з карэспандэнтам Белінфарма і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Ізраілі Міхаіл Фарфель.

Як лічыць Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслаў Грыб, увядзення двайнога грамадзянства ў Беларусі ў бліжэйшай перспектыве не адбудзецца.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Вяртаючыся да надрукаванага

**У нумары за 25 кастрычніка гэтага года "Мінская праўда" змясціла карэспандэнцыю Уладзіміра Бычэні "Дышаль ад Доўгаля". Нагадаем чытачам, што размова ў ёй ішла аб канфлікце паміж прадстаўнікамі калгаса "Слабодскі" Старадарожскага раёна — старшынёй Л.М.Доўгалем і галоўным аграномам В.У.Біруком. Апошні па рашэнню праўлення гаспадаркі за з"яўленне на рабочым месцы ў нецвярозым стане быў звольнены. Яго таксама выключылі з членаў калгаса. Адбыўся суд. Затым агульны сход калгаснікаў аднавіў галоўнага агранома на пасадзе. Але В.У.Бірук скардзіўся: Л.М.Доўгаль фактычна не дапускае мяне да выканання службовых абавязкаў.**

**— Я не п"яніц абараняў,— падкрэсліваў і падкрэслівае Уладзімір Бычэня,— а змагаўся за тое, каб заўжды выконваўся закон.**

**У артыкуле "Дышаль ад Доўгаля" і сапраўды зроблены акцэнт на юрыдычным баку справы. Маральныя ж аспекты аказаліся нявысвечаныя. А менавіта яны надаюць старадарожскай канфліктнай сітуацыі новую афарбоўку.**

# "Я — ЗА ПРАЎДУ"

## Такой пазіцыі ў канфлікце прытрымліваецца адзін з калгаснікаў. А іншыя?

Я вырашыла абавязкова выслухаць абодва канфліктуючыя бакі. Размова са старшынёй калгаса атрымалася доўгая, цяжкая. Гаварыў Леанід Міхайлавіч з болем, з крыўдай. Азнаёміўшыся з пратаколамі пасяджэнняў праўлення калгаса, агульных сходаў калгаснікаў, паразмаўляўшы з людзьмі, я даведалася: Л.М.Доўгаль — гаспадарнік моцны, душой хварэе за справу. Узначальвае "Слабодскі" тры гады, літаральна "нашпігаваны" ідэямі. Сітуацыя ў гаспадарцы сёння, як і ў многіх іншых, складаная. Каб крыху выправіць становішча, старшыня прапаноўваў: стварыць акцыянернае таварыства, перайсці на кантрактную сістэму працы. У калгасе яго не падтрымалі. Л.М.Доўгаль умее працаваць з банкамі, з крэдытамі. Па яго ініцыятыве ў "Слабодскім" заняліся трусагадоўляй. Пушыстыя вушасцікі дазваляюць у нейкай меры "выкручвацца". Скажам, у гаспадарцы ні разу не затрымлівалі выплату зарплаты. Гэта ў наш час не так ужо і мала.

З выступленняў на праўленнях гаспадаркі, на агульных сходах калгаснікаў, з нашай размовы склаўся такі маналог Л.М.Доўгаля:

" За час працы ў гаспадарцы я зразумеў, што ў ёй няма калектыву, няма аднадумцаў. Убачыў вялікі разрыў паміж простымі калгаснікамі і спецыялістамі. Працвіталі п"янства і крадзяжы. Я разумеў, адчуваў, што навесці парадак будзе вельмі цяжка. Было шмат угавораў, але не ўсе іх разумеюць. Скарацілі нямала пасад у кіраўніцкім апараце: тых, што былі для справы непатрэбныя. Замянялі спецыялістаў. Тых, хто не змог "цягнуць воз". Я аддаў калгасу больш, чым мог. Але менш, чым хацеў. Аднак добра разумеў, што на глебе скарачэнняў, патрабавальнасці да кожнага сустрэну нараканні, паклёпы, бруд у свой адрас. Так яно і атрымалася. Многае з таго, што я прапаноўваў, блакіравала нават праўленне. Давайце глядзець праўдзе ў вочы: калі п"янствуе просты калгаснік, яго праўленне звальняе без усялякіх разважанняў. Іншая справа з галоўным спецыялістам — тут пачынаецца блакада.

Колькі разоў я размаўляў з тым жа В.У.Біруком наконт яго шкоднай звычкі, колькі ўгаворваў. Верыў — зразумее. Нават да апошняга моманту прапаноўваў яму звольніцца па ўласнаму жаданню. Збіраўся дапамагчы яму ў пошуках работы. Нічога па-добраму не атрымалася. Звольнілі. Цяпер сход калгаснікаў аднавіў галоўнага агранома на ранейшай пасадзе. Не задумваючыся над пытаннем, а ці мае ён маральнае права патрабаваць працоўнай дысцыпліны ад іншых, калі сам яе не прытрымліваецца. Асабіста я не магу сёння даверыць яму ніводнай больш-менш важнай справы. Хутка ў нас справаздачна-выбарны сход. Разумею: другі раз мяне могуць і не выбраць. Ды і не трымаюся за старшынёўскае крэсла. Крыўдна будзе толькі, калі людзі вырашаць даверыць свой лёс такім вось бірукам".

Лічу, цяпер варта звярнуцца да некаторых дакументаў.

***Выпіска з рашэння праўлення калгаса "Слабодскі". Пратакол № 2 ад 25 лютага 1992 г.*** **"Вырашылі:1.За парушэнне патрабаванняў агратэхнікі пры апрацоўцы бульбы, фальсіфікацыю справаздачных даных па пасяўных плошчах, асабістую недысцыплінаванасць т.Біруку В.У. аб"явіць строгую вымову. 2.Пытанне аб мэтазгоднасці знаходжання яго на пасадзе галоўнага агранома разгледзець пасля заканчэння вясенне-палявых работ. Галасавалі "за" — аднагалосна".**

***Выпіска з дысцыплінарнай практыкі В.У.Бірука:*** **"На глебе п"янства зроблены прагулы: 1993 г. — сакавік /1/, красавік /1/, лістапад /1/. 1994 г. — ліпень/1/, жнівень/2/. Інспектар аддзела *кадраў Т.У. Царыковіч*".**

***Выпіска з рашэння праўлення калгаса "Слабодскі". Пратакол № 7 ад 25 жніўня 1994 г.*** **"Вырашылі: улічваючы, што матэрыяльны ўрон, нанесены калгасу "Слабодскі" па віне былога галоўнага агранома Бірука В.У. /на той момант ён быў звольнены па рашэнню праўлення — Н.Т./ з-за яго абыякава-злачынных адносін да службовых абавязкаў і адсутнасці на рабочым месцы на глебе п"янства 13.08.94 г., а таксама з-за самавольнага ўгону і выкарыстанне ў асабістых мэтах аўтамабіля УАЗ-469, склаў у агульнай суме 6.436.645 рублёў, у адпаведнасці з п.15 п/п 2 статута калгаса "Слабодскі" прад"явіць яму іск аб пакрыцці матэрыяльнага ўрону ў поўным аб"ёме".**

**Сёння ў "Слабодскім" па запрашэнню старшыні калгаса вядзе праверку вядучы рэвізор аблсельгасхарча А.С. Сайко. Ён азнаёміў мяне з тымі яе вынікамі, што тычацца "епархіі" галоўнага агранома: " Ураджайнасць збожжавых у 1992 г. была 26,7 ц/га, у 1993 г. — 24,6 ц/га, у 1994г. — 16,7 ц/га. Тое ж — і па іншых відах прадукцыі. Пры праверцы правільнасці спісання насення пад яравую сяўбу ўраджаю 1994 г. выяўлена неадпаведнасць спісання насення па пярвічных дакументах і справаздачнасці". Гэтая неадпаведнасць вылілася ў залішняе спісанне насення на 2.386.306 дэпамінацыйных рублёў .**

Мая размова з Валерыем Уладзіміравічам Біруком атрымалася кароткая, хоць я і прасіла яго гаварыць пра ўсё, што набалела. Ад галоўнага агранома пачула:" Раней у мяне са старшынёй былі нармальныя адносіны. Усё пачалося 8 жніўня гэтага года. Пры размеркаванні нарадаў старшыня выказаўся нецэнзурна ў адрас аднаго з работнікаў — сказаў:"Смаркач". А я чалавека абараніў. Цяпер штодня хаджу на працу, работы мне старшыня не дае. На праўленні не хаджу, баюся, што выставіць. Навошта ж мне абнеслаўляцца?"

Такая сітуацыя вырысоўваецца ў падачы абедзвюх галоўных дзеючых асоб канфлікту. Але нездарма гавораць у народзе, што з боку заўжды больш відаць. Таму — слова тым, хто мае тое ці іншае дачыненне да старадарожскай гісторыі.

**Ракавец В.С, механізатар калгаса:**

— Мяне, напрыклад, здзіўляе, што механізатара за п"янства можна звольніць хуценька. Не тое што каго-небудзь з галоўных спецыялістаў. Быў, і не раз, Бірук выпіўшы. Многія бачылі яго ў такім стане. Не раз з ім па гэтаму пытанню на праўленні разбіраліся. А ён жа галоўны спецыяліст, аўтарытэт павінен мець. Зразумейце, я — ні за Доўгаля і ні за Бірука. Я — за праўду. Старшыня ж у адзіночку сітуацыю не выправіць.

**Бірук А.К., інжынер па рамонту і эксплуатацыі аўтатрактарнай тэхнікі калгаса:**

— Валера не мае рацыі на 100 працэнтаў. Але і Доўгаль тут вінаваты. Ні адна папера, што тычыцца галоўнага агранома, не была афармлена. Да таго ж — і суд за Валеру, і агульны сход. Сёння ў калгасе — нездаровая абстаноўка.

**Пархімовіч Л.С., начальнік раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання:**

— Лічу, старшыня мае рацыю ў цэлым. Але памыляецца ў падыходах, шляхах вырашэння пытання. А што Бірук такі чалавек, безадказны, — ведаю даўно. Колькі разоў ён у маім кабінеце абяцаў, што больш піць не будзе.

*АД АЎТАРА.* **Канфлікт у калгасе "Слабодскі" застаецца. І ніхто чужы, прышлы яго не вырашыць. Ніхто не выправіць сітуацыю, акрамя саміх калгаснікаў. Проста кожны з іх, думаецца, павінен зверыць свае ўчынкі, стыль паводзін з уласным сумленнем. А інакш і сапраўды можна і без хлеба, і без сумлення застацца.**

*Наталля ТУМАР.*
*Старадарожскі раён.*

■ Народныя таленты

# ПЕРАМОЖЦЫ МІЖНАРОДНАГА

Хор Жодзінскай дзіцячай музычнай школы стаў лаўрэатам другога Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі, які праходзіў сёлета ў Магілёве. Наш карэспандэнт сустрэўся з арганізатарам і кіраўніком хору Эдуардам Шчырым, выкладчыкам гэтай музычнай школы, і папрасіў яго расказаць аб сваіх уражаннях ад фестывалю, справах і праблемах хору.

— Калектывы, якімі я кіраваў, абаранялі гонар Жодзіна на розных аглядах-конкурсах. Але тое, што ўбачыў у горадзе на Дняпры, парадавала найбольш, — заначыў Эдуард Рыгоравіч.

Фестываль пакарыў сваёй маштабнасцю. Прыехалі ўдзельнікі з Расіі, Украіны, Польшчы, Галандыі, Іспаніі, краін Афрыкі. Шырока было прадстаўлена харавое мастацтва нашай рэспублікі. Сваё майстэрства дэманстравалі калектывы Мінска і Маладзечна, Гродна і Полацка, Гомеля і Пружанаў. Фестываль дапамог аматарам самадзейнасці адкрыць для сябе прывабнасць і красу духоўнай музыкі, якая цэлы тыдзень гучала пад скляпеннямі мясцовага касцёла. Менавіта там і напаткала нас удача: мы, як ужо адзначалася, заваявалі званне лаўрэата і дыплом III ступені.

**— А апрача канцэртных выступленняў?**

— Наведвалі музеі, карцінную галерэю старажытнага горада Магілёва, знаёміліся з удзельнікамі іншых калектываў. На наш хор звярнуў увагу Пікарда Гай, які жыве ў Англіі, загадвае аддзелам беларускай музыкі і фальклору ў Лонданскай бібліятэцы. Мы пасябравалі з гэтым чалавекам. Дарэчы, ён цудоўна размаўляе на беларускай мове. Наш калектыў ужо атрымаў ад Пікарда зборнік твораў беларускай духоўнай музыкі, які ў Беларусі набыць практычна немагчыма.

**— І апошняе пытанне да вас, Эдуард Рыгоравіч. Хто вам дапамагаў рыхтаваць хор да такой творчай перамогі?**

— У першую чаргу хочацца назваць намесніка дырэктара музычнай школы Е.Моўчана, выкладчыкаў Л.Корзун, Л.Шышлову, М.Кушнера, канцэртмайстра В.Лаўрэцкага, саліста народнай харавой капэлы ДК БелАЗа, галоўнага метролага завода А.Шкурына, які саліраваў у песні, спецыяльна напісанай для гэтага фестывалю. Перакананы, што без гэтых людзей наш хор не дасягнуў бы такога вялікага поспеху.

*Уладзімір КОБРЫН.*

# Адным абзацам

«Жахлівым» назваў папярэднія вынікі праверкі буйнейшых прадпрыемстваў рэспублікі Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 16 лістапада пры ўручэнні ўзнагарод работнікам Мінскага аўтамабільнага завода. У якасці прыкладу ён назваў вытворчае аб'яднанне «Гарызонт», пры якім створаны 33 камерцыйныя структуры. Такія «паразіты» ёсць і ў іншых буйнейшых прадпрыемстваў рэспублікі, пры дапамозе якіх размяркоўваецца прадукцыя і «накручваюцца» цэны.

* * *

**Сёлета з-за небывалай засухі рэспубліка недабрала 20 працэнтаў ад усяго плануемага ўраджаю збожжавых. У сувязі з гэтым узнікае вострая праблема закупкі збожжа за мяжой. Вытворцы збожжа Расійскага Чарназем'я гатовы прадаць Беларусі таннае збожжа, але нават гэтыя цэны для нас адчувальныя. Прынамсі, на сённяшні дзень 100 долараў за тону збожжа бюджэт рэспублікі, як прызнаўся кіраўнік дзяржавы, вытрымаць не можа.**

* * *

Эканамічны саюз паміж Расіяй і Беларуссю зноў стаў прадметам абмеркавання ў вышэйшых эшалонах улады нашых дзяржаў. Як прызнаўся Аляксандр Лукашэнка, самым вострым тут застаецца пытанне ўласнасці. У прыватнасці, Расія жадае атрымаць ва ўласнасць «Белтрансгаз» — трубаправоды, па якіх ідзе газ праз тэрыторыю Беларусі. У кіраўніцтва нашай рэспублікі гэта выклікае некаторае здзіўленне, паколькі яшчэ не было выпадкаў, каб на беларускай тэрыторыі перакрывалі трубапровад або кралі частку газу, які нам не прызначаўся.

* * *

**Знешні доўг Беларусі на сённяшні дзень складае 1 мільярд 200 мільёнаў долараў. Толькі за газ наша рэспубліка павінна заплаціць Расіі 420 мільёнаў долараў. Паведамляючы аб гэтым, Прэзідэнт Беларусі прызнаўся, што выплата знешняга доўгу цяжкім грузам кладзецца на бюджэт рэспублікі. Але калі раней мы накоплівалі даўгі, то цяпер паступова іх выплачваем, у прыватнасці, Расіі. Кіраўнік беларускай дзяржавы скептычна ставіцца да крэдытавання рэспублікі замежнымі краінамі, паколькі «гэтыя даўгі прыйдзецца выплачваць нашым дзецям».**

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Выставы

# ЦАРЭЎНА-ВОСЕНЬ КОСЫ РАСПЛЯЛА

Дзмітрый Максімавіч Мохаў 25 гадоў таму назад закончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут — цяпер акадэмія мастацтваў. За гэты час распрацаваў шэраг праектаў рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры нашай рэспублікі. Член Саюза архітэктараў Беларусі. Плённа працаваў над стварэннем дэкарацый на студыях "Беларусьфільм", "Таджыкфільм", а таксама для спектакляў у тэатрах Мінска, Масквы, Рыгі, Каўнаса, Баку, Ташкента, Краснаярска, Новасібірска, Смаленска, Чэлябінска, Чэбаксараў і інш. У дэкарацыях і касцюмах, якія распрацаваў Д.М.Мохаў, пастаўлена каля двухсот спектакляў, многія з якіх на айчынных і міжнародных тэатральных фестывалях карысталіся вялікай папулярнасцю. А як ён сам ацэньвае сваю працу?

— На сцэне няма сапраўднага неба, зямлі, рэчак. Задача мастака тэатра адшукаць эквівалент рэальнай жыццёвай прасторы. Прасторы, якая радуе, ці прасторы, якая прыгнечвае. Тут патрэбны вобраз, метафара, сімвал — гэта пошук рашэння спектакля, таго галоўнага, што ўжо натхняла драматурга на напісанне п"есы, рэжысёра — на пастаноўку спектакля, кампазітара — на стварэнне музыкі. Пакуль не "намацаю" жаданы ключык, не супакойваюся, шукаю, — зазначыў Дзмітрый Максімавіч.

Работы гэтага мастака — эскізы і макеты дэкарацый, касцюмаў, графіка, жывапіс — экспанаваліся на многіх рэспубліканскіх і міжнародных выставах. Не бяруся сцвярджаць, колькі чалавек, пазнаёміўшыся з творчасцю Д.М.Мохава, сказалі сабе:

— Якая прыгажосць! Паспрабую і я маляваць...

Ды і Дзмітрый Максімавіч не вядзе такога падліку. Для яго найвялікшая радасць ва ўсведамленні таго, што захапленне дзядулі перадалося ўнучцы Вары, вучаніцы пятага класа Мінскага мастацкага ліцэя (педагог Вольга Наваграан). Нядаўна выстава работ дзяўчынкі экспанавалася ў мастацкай галерэі абласнога цэнтра народнай творчасці. Яе аналіз паказаў, што перад намі — талент. Юная мастачка хораша і праўдзіва распрацоўвае пейзажную тэму, паказвае яе ва ўсёй паўнаце і непаўторнасці. Восень — яе любімая пара, якой і прысвечана большасць карцін. На якую ні кінеш погляд — праўдзівасць перадачы душэўнага стану характараў, дакладнасць паказу з"яў прыроды. Мастацка завершанымі можна лічыць многія работы Вары Лебядзенка. У іх — глыбокая павага мастачкі да ўвасаблення простых, штодзённых момантаў навакольнага жыцця, уменне назіраць, убачыць і перадаць у сваіх творах незвычайнае хараство ў звычайным.

— Ганаруся, што мая ўнучка адмоўна ставіцца да кімсьці напрацаваных метадаў у мастацтве. Яна актыўна шукае свой стыль, сваю індывідуальнасць. І шмат чаго ўжо знайшла. Ці ж не аб гэтым гаворыць той факт, што яе работы, як сведчаць запісы ў кнізе водгукаў, выпраменьваюць радасць і зацікаўленасць, глыбокае пранікненне ў сутнасць адлюстраванай падзеі, — гаварыў пры абмеркаванні творчасці юнай мастачкі Д.М.Мохаў.

*Наш кар.*

# БАЗАРНАЯ РЭКЛАМА

## Замалёўка з натуры

Моркву прадавалі прама з машыны: быў адкрыты задні борт, і жанчыны па прыстаўной лесвіцы, забраўшыся ў кузаў, адбіралі лепшыя, на іх погляд, экземпляры.

За пару гадзін морква была амаль прададзена. Засталося толькі крыху дробнай і нейкай вялізнай жоўтай.

Да вясковых прадаўцоў падышоў малады, акуратна апрануты мужчына. Ён спытаў:

— Што, жоўтую моркву ніхто не купляе?

— Не купляе, хоць ты трэсні ці разваліся на некалькі кавалкаў, — сказаў маркоўны гандляр.

— А вы зрабіце рэкламу — тавар адразу пойдзе!

Малады мужчына, нахіліўшыся, нешта сказаў на вуха прадаўцу сельскагаспадарчых прадуктаў.

— Зразумелі, што трэба сказаць?

— Зразумеў, шаноўны, зразумеў! Вялікі дзякуй! — весела адказаў маркоўны прадавец.

...Крэкчучы, ён узлез на машыну і кінуў адтуль гучныя словы:

— Шаноўныя маркоўныя пакупніцы! Дарагія базарныя пакупнікі! Дазвольце зрабіць афіцыйную заяву, нешта накшталт... гэтай, як яе там... рэкламы.

Ля машыны нібы па камандзе сабраўся натоўп, у асноўным жанчыны. Мужчына, не паніжаючы голасу і крадком глянуўшы на бліжэйшых жанчын, працягваў:

— Вось гэтая жоўтая марковіна, якую я трымаю ў руцэ, называецца вітаміннай. Яна вельмі карысная, асабліва для жаночага арганізма...

— А якая такая карысць ад вашага жоўтага караняплода? — спытаў немалады ўжо мужчына з натоўпу.

І ў адказ адразу пачуў:

— Вельмі вялікая: калі тры такія морквіны нацерці на тарцы, пасыпаць лыжачкай цукру і дабавіць 2,5 лыжкі смятаны, некалькі кропель лімоннага соку і ўсё гэта перамяшаць, то яна заменіць 12-дзённую патрэбнасць жаночага арганізма ў вітамінах...

— Не можа быць! — здзівілася маладая жанчына.

— Далі бог — праўда, — запэўніў спецыяліст па рэкламе.

— А што яшчэ карыснага ў вашай моркве? — гэтае пытанне задала кабета ў модным футравым капялюшыку.

— Якая карысць, пытаецеся? — мужчына задумаўся, а потым весела дадаў: — Морквачка гэтая жоўценькая нібы магніт прыцягвае да жанчыны любога мужчыну, калі яна таго захоча...

Сялянскаму рэкламісту закончыць не далі. У адно імгненне натоўп жанчын накінуўся на моркву, нібы тая саранча на маладую сакавітую траву...

Ад маркоўнай машыны засталіся адны колы, задні мост ды кабіна.

*Анатоль СУНІЦЫН.*

■ Эпизод

# КУДА ДЕЛСЯ «ТИГР»?

Не так давно стало известно, что на дне реки Друть у деревни Чечевичи найден немецкий "тигр". Весть о редкой исторической находке не осталась незамеченной в республике.

Как сообщила одна газета, находку "вытащили из полувековой подводной западни и отправили в музей". Однако дальнейшая судьба трофея породила множество слухов. Например, утверждалось, что машину продали за рубеж, где некоторые коллекционеры готовы выложить за нее не менее ста тысяч долларов.

После небольшой проверки удалось выяснить, что действительно ни в один из белорусских музеев "тигр" так и не поступил. Вполне понятным стало беспокойство и сотрудников военно-фронтового отдела Белорусского государственного музея истории Великой Отечественной войны. Несмотря на то, что в годы войны на территории Беларуси велись активные боевые действия, ни одного немецкого "тигра" в наших музеях нет и в помине. Еще задолго до 60-х годов последние из этих трофеев были пущены на переплавку.

"Концы" необычной находки удалось обнаружить в бронетанковой службе Вооруженных Сил Беларуси. Ее начальник полковник Анатолий Ракицкий прояснил ситуацию. При подъеме танка из воды у него была сорвана башня. В настоящее время машина находится на центральной базе бронетанкового имущества под Могилевом. Кстати, найденный трофей — не "тигр", а командно-штабной Т-3.

Предположительно в 1941 году в ходе наступления он затонул в реке. Корреспондент одного из республиканских изданий получил вроде бы даже задание попытаться выяснить в Германии что-либо о судьбе тех воинов вермахта, которые, возможно, еще живы.

Не исключено, что после компоновки машины и изучения ее истории танк будет передан немецкой стороне. Хотя, по большому счету, не так уж и много у нас подобных трофеев, чтобы раздаривать их. Да и место им — на земле победителей. На то они и трофеи!

*Александр ГРАЧЕВ.*

# МОЖА, І ТРАПІЦЬ КАРАСЬ НА ВУДУ

Невялікія, але прыгожыя Саковіцкае і Святое азёры. Любяць салігорцы раскінуць каля іх палаткі, пасядзець з вудачкай.

Некаторыя тайком выкарыстоўваюць для лоўлі рыбы і сеткі. Таму ў апошні час вадаёмы апусцелі, са дна лягчэй дастаць бутэльку з-пад гарэлкі, чым карася.

Мясцовыя ўлады вырашылі перадаць азёры спецыялістам — таварыству паляўнічых і рыбаловаў. Вадаёмы трапілі ў гаспадарлівыя рукі. Нядаўна ў іх выпушчана больш за 10 тысяч малявак карпа, вырашчаных у Любанскім рыбгасе. У азёрах ёсць усе ўмовы для развядзення гэтай рыбы. Калі толькі цішком карпаў не знішчаць двухногія "шчупакі".

*Анатоль СУНІЦЫН.*

*Жыхары г.п.Узда не праміна́юць магазін па вуліцы Калгаснай, у якім працуе загадчыцай Зоя Анатольеўна Кулікоўская. Пакупнікі ўдзячныя гаспадыням магазіна за тое, што заўсёды знаходзіцца неабходны тавар, для набыцця якога не патрэбна дабірацца ў іншыя гандлёвыя кропкі.*

*НА ЗДЫМКУ /злева направа/: Г.Б.Суднік, З.А.Кулікоўская, С.Л.Германчук.*

*Фота Міхаіла БУЛАТА.*

# Поможет смекалка

Большая связка ключей тяжела и мешает в кармане. Если срезать часть ушка и посадить ключи на одну ось, связка станет много компактнее. При открывании замка ушком послужат другие ключи, повернутые на 90 градусов.

**Развальцевать металлическую трубку можно с помощью обычного сверла. Нужно лишь придать ему вращение, противоположное рабочему.**

Удобный молоточек для ювелирных работ можно сделать из медной ручки от пришедшего в негодность водопроводного крана.

**Проблема насадки молотка не перестает волновать любителей домашнего мастерства. В ручке делается пропил ножовкой. В пропил вставляется железная пластинка. Ручка и пластинка просверливаются, и в отверстие завинчивается шуруп. Выступающую часть пластинки распиливают, затем насаживают на ручку молоток и загибают концы пластинки.**

Для того, чтобы молоток не слетал с ручки, надо дополнительно к клину застраховать его скобой. Она делается из стальной проволоки /или гвоздя/ диаметром 2 мм. В ручке молотка сверлят два отверстия, в них вставляют скобу и концы ее загибают.

**Ручка инструмента будет надежнее, если в отверстие для шпоры насыпать смесь из трех частей канифоли и одной части просеянного песка. Раскалив шпору, надо быстро надеть ее на ручку. Тогда смесь расплавится и прочно закрепит ручку на инструменте.**

■ Наболело

# Что хочу, то и ворочу

В последние годы такое поведение людей стало, пожалуй, уже правилом нашей жизни: не только ни за что не отвечать, но даже не следовать должностным инструкциям. Сделалось "добрым тоном", как говорится, пускать слова на ветер. Отчего бы это? А оттого, что нет строгого спроса. А совесть?.. Так это пережиток старины в век базарно-рыночных отношений и "коммерческих тайн". Если нащупаешь, куда пожаловаться, если взовешь к совести, то, кроме лишних хлопот и неприятностей, ничего не добьешься. Короче, что хочу, то и ворочу, а попросту — демократия без границ.

Еще сравнительно недавно по железной дороге можно было сверять часы. Теперь же опоздание электричек — чуть ли не "великое завоевание" демократических свобод железнодорожников. Задержать отправление поезда на 20—30 минут — это уже норма. Особенная чехарда наблюдается на минских пригородных маршрутах. Люди нервничают, мечутся по путям и платформам, а станционный динамик молчит. Извиняться, объявлять о задержке или изменении расписания теперь не принято — дурной, должно быть, тон.

Не отстают от моды и автотранспортники. Снять с линии автобус — в порядке вещей. Есть и оправдания — трудности с энергоресурсами, экономическая нецелесообразность, недобор пассажиров из-за непредсказуемой, адской дороговизны проезда, и прочее, и прочая...

Казалось бы, у деловых людей слово должно быть надежным. Ведь какой же ты "деловой", если не выполняешь обещаний? Если ведешь себя, как тот "шалтай-болтай"?.. Обязательность, точность, исполнительность — неизменные качества каждого приличного человека и бизнесмена. По крайней мере, по западным меркам. А если вдруг не получается, — коммерческие неувязки, проблемы, — поставь партнера в известность, откажись своевременно, извинись: в жизни все не расставишь, как в шахматах. Тебя в конце концов поймут. В цивилизованном обществе это стало нормой этикета отношений между людьми.

У нас возник новый тип бизнесмена. На вид солидный, ездит на заморском авто, подчас и со спутниковой связью, чтобы, наверное, быть еще более точным в делах и словах. Вот один из таких проявил интерес (не без выгоды, разумеется, материальной, да и моральной) к повторному изданию, конечно, в новом варианте, известного фотоальбома "Минск вчера и сегодня". Выпущен он был несколько лет назад издательством "Беларусь" и уже стал библиографической редкостью.

Завертелось колесо, но, как скоро прояснилось, в одну только сторону. Творческую. А вот материальной поддержки созданная группа исполнителей не получила. Подписанные "деловые" бумаги оказались блефом. Спонсор-бизнесмен, президент одного из акционерных обществ, сослался на коммерческие трудности. Все понятно. Но разве об этом нельзя было сказать сразу? Своевременно отказаться, в конце концов, от затеи с изданием фотокниги?..

Нет, опять все та же ненаказуемая безответственность. А может быть, несмотря на респектабельный вид, просто не хватает бизнесмену элементарной культуры, что часто приводит к наплевательскому отношению к людям? Так какое же, простите, нас ждет будущее? Но это тема для другого разговора.

А пока "правит бал" безответственность и хамоватость многочисленных президентов и президентиков, которых расплодилось столько, что хоть пруд пруди.

Только из такого "стройматериала" и пруд не запрудишь.

*Олег ФОМЧЕНКО, житель г. Минска.*




### 22 лістапада, аўторак

*Беларускае тэлебачанне*

15.20. "Пад ліванскім кедрам". Д/ф.
15.35. "Часцінка".
15.45. ТБ—школе. Выяўленчае мастацтва.
16.05. "Бімбат".
16.25. Пераможца музычнага конкурсу ў Сіэтле Света Лагачова.
17.00. Навіны.
17.10. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
18.10. Навіны (Віцебск).
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Эканамікст.
19.20. Мост.
19.50. Кантакт.
19.55. Свет і чалавек.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. "Комікі". Тэлесерыял.
22.50. Вершы Г.Страдава.
23.15. НІКа.
23.30. Фаварыты года. Фестываль.
0.40. Дайджэст.

*Канал "Астанкіна"*

15.00. Дамісолька.
15.30. Чароўны свет, ці Сінема.
16.00. Джэм.
16.20. "Элен і рабяты". Тэлесерыял.
16.50. Свет сёння.
17.00. Сітуацыя.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. XX стагоддзе. К.Адэнаўэр.
18.00. Гадзіна пік.
18.30. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. "Мы".
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. З першых рук.
20.50. Залаты шлягер.
21.35. Прэс-клуб.
23.00. "Авацыя" прадстаўляе...
23.50. Прэс-экспрэс.

*Канал "Расія"*

15.00. "Жарабец-хітрун". Тэлесерыял.
15.45. Там-там навіны.
16.00. Свята кожны дзень.
16.10. Новая лінія.
16.50. Кліп-антракт. В.Каралёў.
16.55. Ваша права.
17.10. Тэледэбаты.
18.05. L-клуб.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Расямон". Маст. фільм.
21.30. Я— лідэр.
22.20. Рака часу.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Высокая мода" ў Маскве.
22.45. Канцэрт Дэміса Русаса.
23.45. Зоркі гавораць.

### 23 лістапада, серада

*Беларускае тэлебачанне*

8.00. Навіны.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пяць хвілін на жарты.
8.25. Дайджэст.
8.35. Мультфільмы.
9.00. ТБ— школе. Выяўленчае мастацтва.
9.20. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
10.20. Тэлевізійны Дом кіно.
10.55. "Комікі". Тэлесерыял.
11.55. "Бімбат". "Далонь".
12.15. "Дыназаўрыкі".
12.50. "Джон Рос".
13.25. "Пасля 2000 года". Д/ф.
14.20. "Кароль і дыня".
14.35. Відзьма-нявідзьма.
15.35. Чэмпіянат Беларусі па культурызму.
16.10. Лёс вязняў "Азарычы".
16.30. "Бімбат".
17.00. Навіны.
17.10. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
18.10. Навіны (Гомель).
18.25. Кантакт.
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Клуб паляўнічых і рыбаловаў.
19.30. "Крок". "Карамболь". Група "Брава".
20.00. Пяць хвілін на жарты.
20.05. Хакей. Чэмпіянат МХЛ. "Цівалі" (Мінск)—ЦСКА (Масква). 3-ці перыяд.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. "Комікі". Тэлесерыял.
22.40. Пад купалам Сусвету.
22.50. НІКа.
23.05. "Атлантык-сіці". Маст. фільм (Канада—Францыя).
0.45. Дайджэст.
0.55. "Славянскі базар-94".

*Канал "Астанкіна"*

7.00. Раніца.
8.00. "Топа Джыджыа".
8.25. "Дзікая Роза".
9.00. Клуб падарожнікаў.
14.00. "Гарачаў і іншыя".
14.20. Хроніка дзелавога жыцця.
14.30. Грошы і шчасце.
14.45. Партрэт дзелавога чалавека.
15.00. Паглядзі, паслухай.
15.20. "Лятаючы дом".
16.00. Цін-тонік.
16.20. "Элен і рабяты". Тэлесерыял.
16.50. Свет сёння.
17.00. Кампанія "Мір".
17.45. "XX стагоддзе". А.Калчак.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.50. Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Спартак" (Масква)—"Дынама" (Кіеў).
21.30. Маналог.
21.40. А.Шнітке. "Менуэт на біс".
23.15. Мультфільм для дарослых.
23.20. Прэс-экспрэс.
23.30. Футбол. Ліга чэмпіёнаў.

*Канал "Расія"*

7.30. Час дзелавых людзей.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.25. Гандлёвы дом.
8.40. Ранішні канцэрт.
8.55. К.Ваншэнкін пра Ф.Абрамава.
9.25. Кліп-антракт. Т.Маркава.
9.30. "Санта-Барбара".
10.20. Здарова жывеш.
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
11.10, 13.20. "Дзелавая Расія".
14.00. "Сонечны дзень у канцы лета".
15.20. Вясёлыя старты.
15.50. Там-там навіны.
16.05. Свята кожны дзень.
16.15. Новая лінія.
16.55. Звычайная справа.
17.10. Казырная дама.
17.40. Кліп-антракт. Е.Аміранаў.
17.45. Фільм-прэм'ер.
18.00. Дыялог аб Грамадзянскім кодэксе.
18.20. Зоркі Амерыкі.

**Калектыў работнікаў Мінскай аблдзяржнасенінспекцыі выказвае глыбокае спачуванне Тацціяне Васільеўне Габрусь з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.**

## 8-й канал

*Вторник, 22 ноября*

18.00 Мультфильм "Дюймовочка".
18.30 Студия "Интекс": "Новости".
18.55 Телесериал "Морена Клара".
19.45 БАНТ: "Репортаж".
19.55 "Немецкая волна".
20.25 Шанс-приз.
20.40 Телесериал "Шансы".
21.30 Студия "БМ": "Коллекция".
21.50 "Муж собаки Баскервилей". Худ.фильм.

*Среда, 23 ноября*

18.00 Мультфильм "Дюймовочка".
18.30 СОЛТЭК: "Новости".
19.00 Телесериал "Морена Клара".
19.50 Агентство "Пармикс": "Городские часы", "Новости".
20.05 Немецкая волна.
20.40 Телесериал "Шансы".
21.30 Студия "БМ": "ПраРок".
21.50 "Крик дельфина". Худ.фильм.

**Наш адрас:**
**220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".**

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна—эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.

*ЗАСНАВАЛЬНІК – Мінскі абласны Савет дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

**Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.**

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
*Індэкс 63923. Зак.№125.*
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12